


# БЕЛАРУС

№442 • Люты 1997г.
Год выд. 46

BIELARUS / Belarusan Newspaper in Free World. Published by the Belarusan American Ass'n, Inc.
Address: P.O. Box 310178, Jamaica, N.Y. 11431-0178, U.S.A. Price $3.00


## ВЫШЭЙШЫ ЭШАЛОН УЛАДЫ Ў БЕЛАРУСІ

Антыканстытуцыйны, прамаскоўскі рэжым у Беларусі — гэта вынік дзейнасьці расейскіх спэцслужбаў за апошнія пару гадоў. Менавіта гэтыя скрытыя, найчасьцей знаныя толькі праз крыптанімы, ФСК-КДБ службы, адыгралі ў 1994 годзе галоўную ролю ў прасоўваньні да ўлады А. Лукашэнкі — даўгагадовага супрацоўніка камуністычна-маскоўскіх структураў КДБ. Лукашэнкаву выбарчую кампанію курыраваў генэрал Кез, які займаў тады пасаду начальніка контр-разьведкі (па выбарах, ужо прэзыдэнт Лукашэнка, прызначыў Кеза на пасаду намесьніка старшыні КДБ Беларусі). Службы КДБ-ФСК і дапамагалі фінансава выбарчай кампаніі Лукашэнкі і стваралі аналітычна-дапамаговыя цэнтры гэтай кампаніі. Пасьля прыходу да ўлады, А. Лукашэнка паназначаў на высокія пасады ў адміністрацыі Беларусі якраз тых асобаў з спэцыяльных ворганаў. Усьлед за Кезам на высокае становішча, у 1995 годзе на намесьніка старшыні КДБ Беларусі быў назначаны палкоўнік ФСК, нехта Ерын. Дарэчы, гэтая асоба, не была грамадзянінам Рэспублікі Беларусь, і было супрацьканстуцыйна назначаць Ерына на гэтую пасаду, супраць чаго БНФ пратэставаў. Рада Бясьпекі Рэспублікі Беларусь у вялікай прапорцыі складаецца з рускіх разьведчыкаў, афіцэраў ФСК-КДБ. Якраз праз гэтых людзей Масква кіруе палітыку Лукашэнкі. Гэта ў першую чаргу Дзяржсакратар Віктар Шэйман, яго намесьнік Анатоль Тозік (былы выкладчык вышэйшай школы КДБ), Канцараў (грамадзянін Расеі), памочнікі прэзыдэнта Малумаў, Урал Латыпаў (выкладаў у вышэйшай школе КДБ), райца прэзыдэнта Посахаў, намесьнік кіраўніка прэзыдэнцкай адміністрацыі палкоўнік Уладзімер Замяталін ды дзесяткі іншых.

Практычна амаль цалкам у руках расейскіх спэц-службаў знаходзіцца і Міністэрства Замежных Справаў Беларусі. У амбасадах і кансулятах Рэспублікі Беларусь пануе расейская мова, праводзіцца патрэбная Расеі палітыка. У гэтых, зь беларускімі шыльдамі, расейскіх прыбудоўках адкрыта ненавідзіцца Беларусь, адбываюцца кпіныньсмешкі зь беларускае мовы, культуры, ганьбіцца Беларусь. Часта, як гэта было нядаўна ў Нью Ёрку, асобы зь беларускім дыпляматычным пашпартам, выпіваючы разам з расейцамі, трапляюць у скандальныя антызаконныя хуліганскія здарэньні ды абарону ім дае Расейскае Пасольства. Церпіць на гэтым, зьневажаецца Беларусь.

Бясспрэчна, што і сам А. Лукашэнка ў руках расейскіх структураў. Варта прыпомніць колькі штрышкоў зь ягонае біяграфіі: ці раз ён заяўляў, што ня ведае якое ён нацыянальнасьці, па веравызнаньню Лукашэнка называе сябе «праваслаўным атэістам», служыў Лукашэнка ў памежных войсках КДБ СССР на пасадзе палітрука, займаў пасаду намесьніка начальніка Аршанскай турмы па матар'яльнай частцы, быў ублытаны ў несамавітыя, цьмяныя камбінацыі на розных пасадах савецкае камуністычнае адміністрацыі ў Магілеўшчыне.

Бадай найляпей аб сваіх сувязях і сымпатыях да КДБ заявіў А. Лукашэнка, выступаючы 20 сьнежаня 1996 году на ўрачыстам паседжаньні ў часе адзначэньня 79-ае гадавіны КДБ (цытую для нашага чытача ў беларускім перакладзе): «Мой лёс, як палітыка, цесна зьвязаны з КДБ» — і далей вёў Лукашэнка — супрацоўнікі КДБ зьяўляюцца «ядром беларускага грамадзтва», «КДБ — аснова моцнае прэзыдэнцкае ўлады». Пры канцы Лукашэнка падзякаваў кэдэбістам за дапамогу ў часе лістападаўскага рэфэрэндуму. (Цытаты паводля «Известия» 15.01.1997, «Бел. деловая газета» 23.12.1996).

Бясспрэчна, што пры гэткім эшалоне вышэйшае ўлады, нацыянальнай Беларусі месца няма. Акупацыя Беларусі Расеяй ідзе далей — гэта зьява падступная, небясьпечная для дэмакратыі і свабоды. І з гэтым трэба змагацца.

**Зянон Пазьняк**

### ГІСТАРЫЧНАЯ ХРОНІКА «БРАТСКАГА ЕДИНСТВА» БЕЛАРУСІ І РАСЕІ

Расея ніколі не шкадавала свайго «малодшага брата». Беларускія землі заўсёды былі аб'ектам яе заваёвы, або бесцырымонна выкарыстоўваліся ў якасьці ваеннага плацдарму. Вось кароткая гістарычная даведка.

**1492-1494 гг.** Масковія захапіла землі Вяземскага княства. Маскоўскія ратнікі спалілі населеныя пункты ўсходняй часткі, дзе жылі беларусы.

**1500-1503 гг.** Расея захапіла гарады Бранск, Гомель, Дарагабуж і інш. Спалілі Воршу, Мсціслаў, Полацк.

**1512-1522 гг.** Расея забрала Смаленск, Магілёў, Крычаў, Дуброўку. Аднак, у 1514 г. беларускае войска пад Воршай перамагло амаль утрая большае маскоўскае войска.

**1632-1634 гг; 1654-1667 гг.** Расея забірае ўсходнія землі Беларусі. У ходзе ваенных дзеяньняў быў зьнішчаны кожны другі беларус, насельніцтва гарадоў зьменшылася ў выніку вайны на 70-80%.

**1708 г.** У ходзе вайны Расеі супраць Швэцыі на беларускай тэрыторыі была зьнішчана трэцяя частка насельніцтва. По загаду Пятра І былі спалены Сафійскі сабор у Полацку. У той жа год былі разрабаваны і спалены расейскім войскам Магілёў.

## БЕЛАРУСЫ-АМЭРЫКАНЦЫ ПРАТЭСТУЮЦЬ

27-га лютага сёлета у Нью Ёрку насупраць будынку ААН (рог 42-ое вул. і 1-й авэню) адбылася дэманстрацыя пратэсту супраць антыбеларускай палітыкі А. Лукашэнкі і падтрымкі яе Расеяй.

Лейтматыў дэманстрацыі выказаны на дзесятках транспарантаў быў гэткі: «Расея, рукі прэч ад Беларусі».

Арганізатары дэманстрацыі БАЗА і прадстаўніцтва БНФ у Нью Ёрку апрацавалі прынагодныя прэс-рэлізы ды далі некалькі інтэрв'ю друку.

Аднагалосна было ўхвалена накіраваць адпаведную ноту-пратэст супраць умяшаньня Расеі ў беларускія справы прэзыдэнту Расейскае Федэрацыі Барысу Ельцыну. Дэлегацыя беларускае дэманстрацыі у складзе др. А. Рамана, А. Сільвановіча і В. Зайкі гэты ліст уручыла адпаведным асобам у ААН, ды прадстаўніцтву Расейскае Фэдэрацыі пры ААН.

Тэкст лісту ў арыгінале перадрукоўваем:

**Президенту Российской Федерации**
**господину Борису Ельцину**

*Можно выразить сожаление, что Россия открыто вынашивает планы захвата Беларуси, скрывая это за словами «интеграция», «конфедерация» и др. Понятно, кто говорит устами Лукашенко. Имперская политика уже никого не вводит в заблуждение.*

*На Беларуси есть силы, способные постоять за свою страну и свободу.*

*Русская политика против Беларуси, поддержка Россией своего ставленника и авантюриста Лукашенко, участие её руководства в антиконституционном перевороте в Беларуси 21-22 ноября прошлого года — всё это говорит о том, что Россия не демократическая страна.*

*Мы, Беларусы Америки, призываем русские власти остановиться и отказаться от губительного пути очередного расширения империи, перестать оказывать поддержку антиконституционному режиму Лукашенко. У русских властей ещё есть возможность приобрести цивилизованное лицо, пока не стало окончательно поздно.*

*Беларусь была и будет свободной независимой европейской страной.*

**От имени беларусов Америки**
**участники антироссийской**
**демонтрации в Нью-Йорке**

*27 февраля 1997 г.*

BELARUSAN AMERICAN ASSOCIATION, INC.
and the
BELARUSIAN AMERICAN YOUTH ORGANIZATION
request the honor of your presence at a Banquet and Concert
commemorating the 78th ANNIVERSARY of
**THE PROCLAMATION OF BELARUSAN INDEPENDENCE**
to be held on SUNDAY, MARCH 23rd, 1997 at 1:00 PM
in the Regency Ballroom of the Hyatt Regency
Two Albany Street, New Brunswick, New Jersey
• Preceding Banquet •
Divine Liturgy at 10:00 AM
St. Mary of Zyrovicy
Belarusan Autocephalic Orthodox Church
9 River Road, Highland Park, New Jersey
R.S.V.P. before March 20th, 1997
Tickets – $30 per adult $20 per student No tickets at the door
For information
JANKA AZARKO
164 Emerson Rd.
Somerset, N.J. 08873
tel: 908-545-6654
Mr. George Azarko (908) 560-8610 or Ms. Vera Zaprudnik (516) 627-0902

**BIELARUS**
Belarusan Newspaper in the Free World
Published monthly by
BELARUSAN AMERICAN ASSOCIATION, INC.
**Subscription $ 30 yearly**
**«БЕЛАРУС»** — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
Выходзіць месячна. Рэдагуе Калегія
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
*Падпіска зь перасылкаю 30 дал. на год.*
Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

**Грамадзянін Рэспублікі Беларусь, Васіль Цар, заяўляе:**

**Консуляту Рэспублікі Беларусь у Злучаных Штатах Амэрыкі 11 лютага 1997 г., Нью Ёрк**

**Гэтым лістом, я, Васіль Цар, адмаўляюся ад майго Беларускага грамадзянства, і патрабую афіцыйнага прызнаньня гэтага факту належнымі асобамі ў кіраўніцтве.**

**Мае прынцыпы і погляды не дазваляюць мне быць часткай краіны, прэзыдэнт якой узяў кірунак да цямнейшых часін Сталінскай эры.**

**Я не жадаю быць зьвязаным з краінай, дзе прэзыдэнт адкрыта выказвае камплімэнты Гітлеру і ягонаму мэтаду кіраваньня Нацысцкай Германіяй, у той час як Беларусь панесла найбольшую ахвяру ў Другой Сусветнай Вайне, згубіўшы 25% насельніцтва ад Гітлераўскай Германіі.**

**Я не магу сабе ўявіць ніякую другую краіну, у якой прэзыдэнт не валодае роднай мовай гэтай краіны. Сам гэты факт працівіць мне ў найвялікшай ступені.**

**Прэзыдэнт, які, пакіраваўшы мала чым больш за два гады, не зьдзейсьніўшы нічога, каб палепшыць жыцьцё ягоных грамадзян (але вядзе краіну да агульнага краху), мае нагласьць выпусьціць марку з уласным партрэтам. Зусім не шмат прэзыдэнтаў у сьвеце мелі маркі зь іхнімі партрэтамі пры жыцьці. Тыя «ганаровыя» асобы былі Гітлер, Сталін, Мао Дзэ Дун і крыху іншых таго ж калібру.**

**Краіна, дзе правы чалавека парушаюцца рэгулярна, дзе людзей арыштоўваюць, зьбіваюць часткі сьпецназу, трымаюць у камэрах без абвінавачваньня і суда, кладуць у псіхіятрычныя клінікі толькі за выказваньне думак, дзе кожнае падарожжа за граніцу вырашае Камітэт Дзяржаўнай Бясьпекі, зьяўляецца Паліцэйскай Дзяржавай.**

**У любым выпадку, ці маё патрабаваньне будзе задаволенена належнымі ўладамі ці не, я заяўляю, што больш не лічу сябе грамадзянінам Беларускай Рэспублікі.**

**Прыкладаю копію майго Савецкага Пашпарту ОМ-ХХ # 154386.**

**Калі Кансулят не ў праве вырашаць, афіцыйны адказ можа быць дасланы на наступны адрас (далучаны).**

# «А кто я здесь?»

*(ліст у рэдакцыю, захаваны стыль аўтара)*

Адзінаццатага лютага сёлета я пайшоў у Беларускі Кансулят у Нью Ёрку. За кампанію я ўзяў з сабой свайго сябру-амэрыканца Рычарда. У кансуляце, у невялікім прыёмным пакойчыку, дзяўчына ўзяла ад мяне маю паперу-тлумачэньне па-ангельску, а на адвароце па-беларуску. Я размаўляю з самага пачатку да канца толькі па-ангельску, дык мой сябар разумеў сытуацыю. Калі пачалася гаворка, з суседняга пакою выйшаў і падыйшоў да нас высокі стройны мужчына. Я сказаў, што я прыйшоў, каб адмовіцца ад свайго грамадзянства. Мужчына перагледзеў мае паперы. Я тут запытаў ці гэта можа баць зроблена тут на месцы, у Кансуляце. Спачатку дзяўчына адказала: «Так, можна». Тады яны пачалі радзіцца парускy (*хачу зазначыць: па-беларуску ніхто зь іх не вымавіў ані слоўца за ўвесь час майго знаходжаньня*) ды сказалі нешта аб тым, што патрэбна плаціць 500 даляраў за адмову ад грамадзянства. Тут я не вытрымаў і кажу: «500 даляраў? За што?» Яны пачалі мне казаць па-руску: «За отказ от гражданства». Але я ўпарта працягваў па-ангельску: «Добра, я згодны, калі Вы прад'явіце мне афіцыйны дакумэнт ці кнігу, дзе надрукаваны такі закон!»

Тады яны мне кажуць: «Ці можаце Вы прыйсьці пазьней, пасьля абедзеннага перапынку? Мы ня можам гэтага вырашыць без консула Лазеркі.»

Я: «Не! Чаму я павінен прыходзіць ізноў? Я Вам пакідаю афіцыйны ліст, там ёсьць мой адрас.» У гэтым часе падыйшоў зь іншага пакою да нас яшчэ адзін мужчына, зьнешне падобны да Юрыя Оранжа, беларускага дыплямата ў ААН, фота якога астатнім часам не зыходзіла са старонак газэт і з блакітных экранаў. «У чым справа?» — пытаецца. Праглядзеў маю паперу: «Чаму вы гэта робіце?»

— «Вы ж только што прачыталі, ці там недастаткова напісана? Ды я мяркую, што ўвогуле не патрэбна даваць які рэзон, дастаткова жаданьня грамадзяніна».

— «Вы грамадзянін ЗША?»

— «Не.»

— «Так, існуюць дзьве праблемы. Першая: пісьмо павінна быць адрасавана на імя прэзыдэнта, таму што прэзыдэнт вырашае пытаньне аб адмене грамадзянства. Гэта можа заняць каля трох месяцаў. Пісьмо павінна быць перапісана па форме».

— «Па якой «форме»? Вы маеце прыклад формы? Я не зьбіраюся нічога перапісваць. Пісьмо адрасавана Консуляту. Вы — Консулят, прадстаўнікі прэзыдэнта. Ці вы мне раіце слаць ліст у Беларусь? Але, калі вы жадаеце, каб я адрасаваў гэты запрос прэзыдэнту — «калі ласка», — і я напісаў ад рукі на верхняй частцы ліста: «Прэзыдэнту Рэспублікі Беларусь сп. А. Лукашэнку».

Падобны да Юрыя Оранжа працягваў:

— «Другая праблема: вы — без грамадзянства (stateless)».

— «Чаму гэта праблема?»

— «Таму што вы — без грамадзянства». (жалезная логіка!)

— «Ну і што?»

— «Але вы — без грамадзянства!» (Ён сказаў гэта закліньньне мусіць разоў з восем)

— «Але ж гэта мая праблема, не ваша, а я не бачу тут аніякай праблемы. Чаму гэта вас турбуе?»

— «Так, але ж гэта — праблема. Вы не зарэгістраваліся ў Консуляце, як патрабуецца, калі вы прыехалі ў Амэрыку. І пашпарт ваш ужо не годны. Вы — без грамадзянства».

— «Дык што, па нейкаму закону, таму што я не зарэгістраваўся, я ўжо сёньня — не грамадзянін Беларусі? Вы гэта кажаце? Дык і добра! Дайце мне зараз паперу, што я не зьяўляюся грамадзянінам, - не патрэбна чакаць тры месяцы».

— «Не, прэзыдэнт павінен разглядзець. А вы — без грамадзянства».

Тут мне стала здавацца, што ўжо дастаткова было размоў. Кажу:

«Мы павінны ісьці, толькі падпішыце, калі ласка, маю копію звароту, ці пастаўце пячатку, ці што там патрабуецца».

«Высокі» кажа дзяўчыне:

«Подпиши». Яна пачала выводзіць: «Vokhroneva».

Я: «Імя таксама пастаўце». Яна напісала: «Svetlana».

Я: «І ваш тытул, калі ласка».

Яна, да «высокага»:

«А кто я здесь? Какой у меня титул?»

Высокі: «Секретарша»

— «А как секретарша по-английски?»

— «Так и будет — secretary».

Яна старанна напісала, зрабіўшы толькі адну памылку, якую мой сябра Рычард адразу ўгледзеў, але нічога не сказаў прысутным. Я кажу: «Дзякую і Гудбай, прыемна было сустрэцца», зьвяртаючыся большай часткай да дзяўчыны, якая зараз мела прыгожую ўсьмешку на твары, а «высокі» і «Оранж» ужо мяркавалі нешта паміж сабой, і я бачыў толькі іхнія сьпіны, а не ўсьмешкі.

За дзьвярыма Рычард адразу сказаў: «Цяпер я бачу, чаму ты не хочаш мець нічога агульнага з той краінай. У той краіне чалавек без грамадзянства — не чалавек». «І з грамадзянствам — таксама» — адказаў я.

**Васіль Цар**

*Абвестка-запросіны*

## 24-я МАСТАЦКАЯ ВЫСТАЎКА Ў САЎТ-РЫВЭРЫ

У Беларускім Грамадзкім Цэнтры ў Саўт-Рывэры (26 Whitehead Avenue) адбудзецца 16-23 сакавіка сёлета (ад 2-й гадз. да 5-й папаўдні) 24-я выстаўка твораў мастакоў і ўмельцаў зь Нью-Джэрзі і іншых штатаў ЗША, Канады, а таксама Беларусі.

Усіх сардэчна запрашаем!

**Беларускі Мастацкі Клюб у Нью-Джэрзі**

**Андрусь Храпавіцкі**

## ВЕСНАВОЕ

Чакаю першую траву
І веснавых хрушчоў
Што маюць прагудзець
Аднойчы ў садзе.
Чакаю зьменаў
Разам з веснавым дажджом,
Што будзе стол і госьці ў нашай хаце.
Я веру: шчасьце ўжо не за гарой,
І чорныя палосы змыюцца прылівам.
Хай сэрца кожнага напоўніцца
вясной
І мары зьдзейсьняцца,
І стане явай дзіва!
Няхай зыйдзе ў нябыт
Увесь замшэлы фуз,
Хай зьнікнуць беды, вечныя напасьці.
Жыві, як маеш жыць, свабодны
беларус,
Бо, калі ты захочаш, прыйдзе
шчасьце!

### Slavic Heritage Council of America

Урачыстае адзначэньне 20-х угодкаў арганізацыі адбудзецца 6-га красавіка ў Нью Ёрку ў рэстаране La Mgagnette.

Па інфармацыю зварачайцеся да Р. Станкевіч, tel: 718-380-2960.

# ЛІТАРАТУРНАЯ СПАДЧЫНА: НОВЫ ЎГЛЯД

*Рубрыку вядзе Лявон Юрэвіч*

*Зрэдку здараецца адшукаць у архівах цікавыя тэксты, аўтарства якіх невядомае. Цалкам магчыма, што некалі яны былі выдрукаваныя, але каб сьцьвярджаць тое дакладна, патрэбна багата часу і перагляду стосаў беларускіх газэтаў і часапісаў. Што-ж чакаць, пакуль знойдзецца аўтар, ці друкаваць у спадзяваньні на людскую памяць і дапамогу?*

*Ніжэй зьмяшчаем некалькі вершаў (усяго іх 6) зь нізкі якая называецца «Із старых тэмаў» і пазначана 1953 годам. Можа, хто-небудзь падкажа імя аўтара.*

* * *

На сэрцы скрабінка яшчэ адна.
Яшчэ адна жыцьцёвая на сэрцы.
Усё мінулае і творчая мана
У ёй купаюцца, бы ў рэчцы.
Малады я быў. І вось тады
я плёныя падслухаў болі:
чакаюць прыйсьця памерлыя сюды,
каб іншыя пасеяць лозы.
Зусім стары. І вось цяпер
Я не адчую за плячыма раньня.
Грукае Былое, а можа — Сяньня.

* * *

Я шмат што пераняў ад самаго сябе.
Я плакаў, як маленец кажны;
І дакорлівасьць каханьня зьведаў,
І на жыцьця дарогах
прасіў спагад усякіх.
Застаецца шчырасьць падараваць камусьці,
каб кінуць тайнасьці мае ў пахавальні...
я не зракаюся, што жывучы жыцьцём,
я браў яго крывёй сваёй,
і хваляй даслаўнай — усялякай.
І радасьць не зрахую — пяшчынак будзе мала
іх адлічыць насяньня і назаўтра.
З прамежкамі сьлязін
яны цяпер і помняцца, і вабяць
прыветнасьцяй спатканьня ціхіх дзён,
якім я аплачу аднолькава —
усім сабой.

**Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва паведамляе: прымаецца падпіска на чароднае сэрыйнае выданьне БІНІМу «Беларускія паэты і пісьменьнікі» кніга нумар 8.**

***АРХІЎНАЯ КНІГА:*** недрукаваныя, найчасьцей расшуканыя ў архівах творы, перапіска, камэнтары Юркі Віцьбіча, Хведара Ільляшэвіча, Уладзімера Дудзіцкага, Уладзімера Клішэвіча, Уладзімера Сядуры ды Міколы Сільвановіча.

Кніга, *апрацованая й камэнтаваная Лявонам Юрэвічам* (вокладка Ірэны Рагалевіч, друк Міколы Прускага), выдатнае дапаўненьне, як да гэтае сэрыі, гэтак і грунтоўны ўклад у дасьледваньне беларускага творча-літаратурнага працэсу на эміграцыі, увод у вялікую працу гісторыі беларускае літаратуры на эміграцыі.

Падпісная цана на кнігу 25.00 ам. дал. Гэтаксама любое ахвяраваньне-сума на выдавецкі фонд БІНІМу будзе прынятая зь вялікай удзячнасьцю.

**Управа БІНІМу**

**Ахвяраваньні і падпіску слаць: BINIM**
**230 Springfield Ave.**
**Rutherford, NJ 07070**

**На дзейнасьць Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва ды выданьне «Архіўнае кнігі» у лютым ахвяравалі;**

| | | | |
|---|---|---|---|
| Др. Ян і Н. Запруднікі | ам. дал. 1000 | Б. Даніловіч | 50 |
| В.М. | 500 | Р. Завістовіч | 50 |
| М. і Т. Белямук | 300 | К. Вайцяхоўскі | 50 |
| Др. М. Смаршчок | 200 | М. Сагановіч | 50 |
| М. Занкавіч (Францыя) | 200 | А. Субота | 50 |
| Ю. і Л. Арцюх | 150 | В. Яцэвіч | 40 |
| М. Галоўка | 125 | К. Акула | 25 |
| Т. і А. Кольба | 100 | У. Пеляса | 30 |
| С. Нарушэвіч (Аўстралія) | 100 | К. Верабей | 35 |

## АГЛЯД КНІГАЎ

У Менску ў сэрыі «Творцы Беларускага Замежжа» выдадзена першая кніга Эдварда Вайвадзіша, паэта, настаўніка з Латвіі, — «Вершы, паэма, згадкі». Уклаў зборнік С. Панізьнік, фундаваў выданьне былы вучань Вайвадзіша Ф. Бартуль, які напісаў і прадмову. Сам факт зьяўленьня кнігі, якую аўтар пабачыў у свае 100-я ўгодкі, яшчэ раз сьцьвярджае: жыць трэба доўга. Днямі па адрасу рэдакцыі «Беларуса» прыйшоў ліст з Латвіі, а ў ім — новы верш Э. Вайвадзіша.

**РАЗЬВІТАНЬНЕ**

Састарэўся мой садок,
Што быў фруктамі багаты.
І зьнікае мой мядок,
Што падмогай быў для хаты.
Дзякуй Богу за сто год,
Праляцеўшы нібы кулі,
Разьбіваў цьвёрды лёд,
Каб радзімы мову чулі.
Што амаль сто год назад
Пачалося адраджэньне.,
А савецкі строгі ўрад
Нішчыў мову і карэньні.
Незайздросны быў мой лёс
На зямельцы пражываньня.
З болькю суну я свой воз
На апошне разьвітаньне.
Дзякуй родным і сябрам.
І ганорым дабрадзеям,
Што бываюць тут і там —
Франю шчодраму зь Сяргеем.
Я хачу ужо спачыць
Ля магілкі сваёй жонкі.
Бо жыцьцё мне не вярнуць.
Каб служыць сваёй старонцы.

## ЛІСТЫ Ў РЭДАКЦЫЮ

*Рэдакцыя атрымала вельмі цікавы ліст з Аўстраліі разам з далучаным невялікім артыкулам. Дзеля таго, што і ліст і артыкул гэтак выдатна адлюстроўваюць лёс нашага расьцярушанага народу і нацыянальную трагэдыю, рэдакцыя вырашыла надрукаваць абодвы. Друкуем з самымі невялічкімі папраўкамі. Аўтар, відавочна вельмі скромны чалавек, які, не гледзячы на ўсе жыцьцёвыя пэрыпэтыі, дасканальна валодае беларускай мовай.*

* * *

«Я пастанавіў што-небудзь напісаць да Вас. Я нарадзіўся ў вёсцы Лукашына, што 18 км. ад Навагрудку. У 1942 годзе нас вывезьлі ў Нямеччыну — мне было тады 11 гадоў. Мы ўжо болей не пабачылі Беларусь. У 1946 годзе праз памылку мой бацька завёз нас у Польшчу. Пашчасьціла нам, што нас польская ўлада не заўважыла, як непрыяцеляў савецкай улады. У 1973 годзе ўдалося нам: мне, маёй жонцы й сыну — паехаць у Францыю да сваякоў на візыту. Там мы і засталіся, як уцекачы. З Францыі мы паехалі ў Аўстралію.

Я праз школы прывучаны быў да ўсяго, што польскае. Нават з жонкаю польскаю мы дома гаворым па-польску. Аднак, я Беларус, і мне вельмі душа баліць калі гэты чалавек, так-званы прэзыдэнт, Лукашэнка, як факты паказваюць, пастанавіў зьліквідаваць нашую Беларусь. На гэта ня можна глядзець бязчынна. Да гэтага пісьма я далучаю мой артыкул «Ліст з Аўстраліі» — калі можа папраўце памылкі і калі заслугоўвае да публікацыі, то пусьціце у газэту.»

# НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД «БЕЛАРУСА»

**Ад нашага прадстаўніка ў Кліўленд, Агаё на 1977 г. Андрэя Стрэчыня**

Прысьвячаем аднаму нумару Беларуса

| | |
|---|---|
| В. Дубаневіч | ам. дал. 70 |
| І. Врэціц | 10 |
| А. Кабяка | 40 |
| Я. Каваленка | 40 |
| К. Калоша | 100 |
| Т. Кананчук | 30 |
| С. Карніловіч | 30 |
| Н. Кертыш | 20 |
| К. Малалыцкі | 33 |
| С. Махахей | 30 |
| Я. Раковіч | |
| М. Страпко | 30 |
| А. Стрэчын | 100 |
| О. Стрэчын | 35 |
| М. Стрэчын | 40 |
| К. Стрэчын | 35 |
| В. Стрэчын | 35 |
| Я. Ханенка | 40 |
| М. Шпэндзік | 30 |
| Я. Шымчык | 30 |
| В. Яцэвіч | 30 |
| А. Яраховіч | 30 |
| Царква Жыровіцкая Божае Маці | 500 |

| | |
|---|---|
| Аддзел БАЗА | 50 |
| Аддзел Беларускіх Вэтэранаў | 50 |
| Аддзел Жаночага Згуртаваньня | 50 |
| Грамадзкі Цэнтар Полацак | 50 |
| Парахвія Жыровіцкае Божае Маці | 50 |
| Кампанія Лукіянчук | 100 |

**Ліста ад сп. Г. Шэйпака (Аўстралія)**

| | |
|---|---|
| В. і Р. Шэйпак | аўст. дал. 100 |
| З. Кадняк | 50 |
| П. Гуз | 50 |
| Сп-ва Кукель | 75 |
| Т. Лашук | 75 |
| Л. Яцкевіч | 50 |
| У. Сідлярэвіч | 70 |
| Я. Яшчанка | 50 |
| В. Каралюк | 45 |
| Я. Барысевіч | 45 |
| Я. Стасевіч | 45 |
| А. Груша | 50 |

**Прыслана непасрэдна у рэдакцыю:**

| | |
|---|---|
| М. Рагуля | 200 |
| Я. Ціпко | 30 |
| Ю. Андрусышын | 50 |
| Я. Каханоўская | 50 |

### Ліст з Аўстраліі

Калі рэфэрэндум на Беларусі на апрабату новае лукашэнкаўскае канстытуцыі ня прызналі важным усе дэмакратычныя сілы на сьвеце, дык што можна думаць аб усіх папярэдніх лукашэнкаўскіх выбарах. Сама сабою насоўваецца думка, калі ўсе папярэднія выбары былі такою самаю **фальшыўкай**, як і апошнія, дык тады Лукашэнка ёсьць не легальным прэзыдэнтам Беларусі, а толькі расейскім самазванцам на беларускі прэзыдэнцкі трон. Мы, беларусы, маем права так думаць, бо за Лукашэнкам адыйшла на дальні плян беларуская нацыя, яе мова і культура, а таксама беларуская сымболіка «Пагоня», якая мае пачаткі ад Вялікага Княства Літоўскага. Беларускі нацыянальны бел-чырвона-белы сьцяг таксама адкінуты. Усім на сьвеце відавочна, што Лукашэнка даводзіць беларускую дзяржаву і яе нацыю да блізкае ліквідацыі. Інтэграцыя з Расеяй гэта ўжо апошні этап ліквідацыі Беларусі, зьнішчэньня яе самастойнасьці. Усе беларусы павінны падумаць аб гэтым і не дапусьціць забойства сваёй нацыі.

## СЬВ. ПАМЯЦІ ЮРКА ХАХОЛКА



Нарадзіўся Юрка Хахолка ў Глыбокім у 1926 г. Яшчэ зусім у маладых гадох зазнаў шмат бяды й гора. Бацьку і старэйшага брата немцы расстралялі ў першыя дні вайны. Сам Юрка падманам апынуўся ў батальёне Радзюка, які ўлетку 1943 году перайшоў на бок савецкіх партызанаў. Юрку ўзяло 6 месяцаў каб уцячы адтуль, у часе чаго быў ранены.

Спаткаў я Юрку ў Нямеччыне ў 1944 годзе, дзе пасьля вайны мы апынуліся ў лягеры Ды-Пі у Ватэнштэце. Ужо там ён адзначаўся вялікім талентам у спорце, гімнастыцы і боксе. Але, хіба найбольш улюбёным ягоным спортам быў валейбол. Ужо ў Нямеччыне ён браў удзел у інтэрнацыянальных спаборніцтвах у нашай каманды «Нёман».

У 1948 годзе Юрка апынуўся ў Ангельшчыне і адразу пачаў адшукоўваць беларусаў, каб арганізавацца. Перазджае у горад Лідс і закладае зноў беларускую каманду «Нёман» і неўзабаве арганізуе першае спаборніцтва ў невялікім горадзе Гэкмондвайк. Тут «Нёман» пад Юркавым кіраўніцтвам займае першае мейсца. Аднак, з часам, рады «Нёмана» пачалі радзець, а рэзэрваў у нас ня было. Юрка даведаўся, што ў суседні Брадфорд прыбыло шмат беларусаў з здэмабілізаванага польскага 2-га Корпуса гэнэрала Андэрса. Мы адправіліся ў Брадфорд у пошуках новых ігракоў. Падмацаваўшы сваю дружыну, «Нёман» зноў пачаў выйграваць усе спаборніцтвы. «Нёман» праіснаваў некалькі гадоў і афіцыйна перастаў існаваць нешта ў 1955 годзе.

У той час ангельцы ніколі ня бачылі і ня чулі, што гэта такое валейбол і што гэта за спорт. Юрка стараецца пераканаць гарадзкія ўлады, што гэта вельмі папулярны спорт ня толькі ў Эўропе, але й на цэлым сьвеце. І урэшце Юрку дазволілі праводзіць раз у тыдзень трэніроўкі ангельскай моладзі. У канцы 1956 году закладаецца і афіцыйна рэгіструецца першае Ангельскае валейбольнае згуртаваньне. На другі год у горадзе Лідс закладаецца першая дзявоцкая сэкцыя пад Юркавай апекай. Аб Юркавых посьпехах даведваюцца студэнты гарадзкога ўнівэрсытэту і запрашаюць яго заапекавацца імі. У 1977 годзе Ангельскае валейбольнае згуртаваньне даручае Юрку выбраць найлепшых ігракоў з цэлай Ангельшчыны і падрыхтаваць іх да сусьветных спаборніцтваў. Крыху пазьней Юрка праходзіць курсы інтэрнацыянальнага судзьдзі і атрымоўвае званьне афіцыйнага наглядчыка за ангельскім валейболам.

Юрка Хахолка браў актыўны ўдзел у беларускім грамадзкім жыцьці на эміграцыі. Прыехаўшы ў Ангельшчыну зь беларускай «вёскі» Ватэнштэт, ён устаніў у ХАБР (Хрысьціянскае Аб'еднаньне Беларускіх Работнікаў у В. Брытаніі), належыў да АБН (Антыбальшавіцкі Блёк Народаў). У маладзейшыя гады, ён штогоду падрыхтоўваў беларускіх дзетак да выступаў зь песьнямі й нацыянальнымі танцамі на зьездах АБН'у. Юрка й сам быў добрым танцорам і музыкам на ўсіх струнных інструмэнтах.

Юрка Хахолка быў вялікім прыхільнікам БАПЦ і заўсёды гаварыў, што незалежная Беларусь ня толькі павінна, але абавязкава мусіць мець сваю незалежную ад чужынцаў Царкву.

Ён ні разу не адмовіўся з фінансавай дапамогай, ды заахвочваў іншых падтрымліваць усялякую беларускую справу. Быў рэгулярным падпісчыкам і чытачом газэты «Беларус».

Памёр Юрка 3-га ліпеня 1996 году, нечакана, ад сэрдца. Пакінуў у смутку жонку Салі, двух сыноў Юрку і Антона, нявестак Вэроніку і Сузану, двух унукаў і дзьве унучкі.

Пахавальную Багаслужбу адправіў украінскі праваслаўны сьвятар. Сьвятыня была перапоўненая. Людзі прышлі, каб сказаць апошні раз «бывай». Прышлі сюды ўсе беларусы, з бліжэйшых і далейшых мясцін. Прыйшло шмат ангельцаў, ягоных студэнтаў. Прэзыдэнт Ангельскай валейбольнай асацыяцыі Джорж Букмэн, якога Юрка падрыхтаваў на гэтае становішча, калі даведаўся аб Юркавым заранім адыходзе ад нас, адлажыў на некалькі дзён заплянаваную паездку ў Атланту на алімпіяду і прыехаў разам з жонкай, каб апошні раз разьвітацца са сваім «настаўнікам» і сябрам.

Пасьля паховінаў, каля 100 асобаў сабраліся ў мясцовым клюбе, каб падзяліцца ўспамінамі аб памерлым. Жонка Юркі, Салі, дзякуючы прысутным за спачуваньні, зазначыла, што гэта быў яе гонар і прывілея быць у сужэнстве з такім беларусам, якім быў Юрка.

Няхай будзе пухам, табе Юрка, ангельская зямелька.

**Сябра Алесь Гатковіч**

**У выдавецтве газэты «Беларускі калекцыянер» выдадзены малога фармату (кішанковага) каляндар на 1997 год у адзначэньне 700 угодкаў беларускага нацыянальнага гэрбу «Пагоня». Каляндар можна атрымаць, пішучы на адрас «Беларуса», далучыўшы даляр і канвэрт з адваротным адрасам і паштовай маркай.**

## СЬВЕТЛАЙ ПАМЯЦІ а. РАБЭРТ ТАМУШАНСКІ



У аўторак 10 сьнежня 1996 г. памёр у Рыме ад інфаркту на 56-тым годзе жыцьця беларускі грэка-каталіцкі сьвятар, айцец Рабэрт Тамушанскі.

Айцец Рабэрт нарадзіўся ў Нью Ёрку 3 ліпеня 1940 г. Ён быў амэрыканцам у трэцім пакаленьні. Ягоныя дзяды па-бацьку паходзілі з паўночна-заходняй часткі Беласточчыны, дзе Вунія датрывала да канца мінулага стагодзьдзя. Ад іх малады Рабэрт атрымаў сьвядомасьць свайго беларускага паходжаньня, а таксама веданьне беларускай мовы і любоў да Вуніяцкай Царквы. Пасьля скончэньня сярэдняй школы, у 1958 г. ён уступіў у закон айцоў Базыліянаў у Глэн Коўв каля Нью Ёрку. У 1960 г. ён ужо студэнт на ўнівэрсытэце ў Аттаве ў Канадзе. У тым часе ён пазнаёміўся з кс. Францішкам Чарняўскім, які дапамог яму грашова і ад якога ён даведаўся пра біскупа Часлава Сіповіча, Апостальскага Візытара для Беларсаў. На ягоную просьбу біскуп Сіповіч прыняў яго да сябе і паслаў у духоўную сэмінарыю ў Кэнігштайн у Нямеччыне. У кастрычніку 1965 г. Рабэрт атрымаў дыяканскія сьвячэньні, а 3 сьнежня 1966 г. — сьвятарскія з рук біскупа Сіповіча. Хутка пасьля гэтага ён пераехаў у Лёндан, дзе займаўся пастырскай дзейнасьцю, працаю ў школе Сьв. Кірылы для беларускіх дзяцей і ў бібліятэцы імя Францішка Скарыны. Нягледзячы на вялікую занятасьць ён знайшоў час для далейшай навукі і ў 1974 г. атрымаў на Лёнданскім Унівэрсытэце ступень доктара філязофіі ў галіне славянскай філялёгіі. У тым самым годзе ён выехаў у Рым для працы ў беларускай праграме Ватыканскага Радыё, якой кіраваў тады а. Леў Гарошка. Пасьля сьмерці апошняга ў 1977 г., а. Рабэрт быў назначаны дырэктарам беларускай праграмы і заставаўся на гэтым становішчы да канцы жыцьця. Як і ў Лёндане, ён не пакінуў навукі і атрымаў дыплём з сучаснай літаратурнай арабскай мовы ў Папскім Інстытуце арабскіх і мусульманскіх студыяў.

З сьнежня 1996 г., тыдзень перад сьмерцю, айцец Рабэрт адзначыў у Лёндане 30 год свайго сьвятарства. Ён ужо тады адчуваў сябе дрэнна, але не хацеў ісьці ў шпіталь і сьпяшаўся вярнуцца ў Рым. Тыдзень пасьля сваіх сьвятарскіх угодкаў яго не стала ў жывых.

Айцец Рабэрт быў пахаваны ў Рыме ў пятніцу 23 сьнежня. Згодна зь ягоным жаданьнем, пахаваньне было сьціплае. На ім былі прысутныя супрацоўнікі Ватыканскага Радыё, прадстаўнікі Ўсходняй Кангрэгацыі, а таксама невялікая рымская беларуская грамада. Зь Лёндану прыляцеў на пахаваньне а. Аляксандар Надсан.

Нават у сьмерці а. Рабэрт думаў пра Царкву і свае невялікія ашчаднасьці ён пакінуў на ўзгадаваньне беларускіх грэка-каталіцкіх сьвятароў.

Адышоў у вечнасьць сьціплы працаўнік на Божай ніве, верны да канца свайму сьвятарскаму пакліканьню і шчыра адданы беларускай справе. Хай добры Бог узнагародзіць свайго вернага слугу.

**а. Аляксандар Надсан**

## СЬВ. ПАМЯЦІ ПАВЕЛ АСІПОВІЧ



Павел Асіповіч нарадзіўся у вёсцы Бэніца, каля Маладэчна.

Быў адданым працаўніком і патрыётам, адным з закладчыкаў ЗБВБ. Вёў Беларускую Харытатыўную Сэкцыю, належыў да Ангельска-Беларускага Таварыства і да "European Liason Group", дзе рэпрэзэнтаваў беларусаў. Быў сябрам БНР.

Памёр 23-га студзеня 1997 г. Пакінуў у смутку жонку Крыстыну, дачку Івонку і сына Марка.

**Сябры і знаёмыя**

## ПАДЗЯКА

Рэдакцыя «Беларуса» шчыра дзякуе за прысланые інфармацыі і газэтныя выразкі: К. Акулу, І. і Я. Сурвіллам, Ю. Кіпелю, Дру і В. Рамукам, Г. Шэйпаку, Б. Даніловічу, Ю. Найдзюк, М. Швэдзюку, А. Лашуку, К. Вераб'ю, А. Кіпель, Р. Завістовічу, А. Маркевічу, З. Пазьняку, С. Трыгубовічу, А. Міцкевічу, Б. Рагулю, В. Хмялеўскаму, К. Валошыну, Б. Кіту.